## НЯМЕЧЧЫНА.

Агульны зьезд саксонскіх сац.-дэмакр. асудзіў уваход сацыялістычных паслоў у коаліцыйны габінэт (разам з буржуазнымі парт.) і выключыў з партыі 25 паслоў, якія галасавалі за коаліцыі, у тым ліку і прэм'ера Гэльдта, які аднак-жа астанецца шэфам ураду.

Гэта выклікала раскол у партыі.

---

У Дюсельдорфе (Басэйны Руры) абвешчана агульная забастоўка. Не салодка, відаць, работнікам пасьля „паразуменьня“ прамыслоўцаў з акупантамі...

---

Плебісцыт у Вольным Месьце Любэку пастанавіў, каб цяперашні Сэнат, які складаецца пераважна з сацыялістаў, астаўся надалей.

## АНГЛІЯ.

Урачыста адчынены ангельскі парлямэнт. Пад'ем і ажыўленьне вялізарнае. Правадыроў работніцкай партыі вітаюць вельмі горача. Макдональд сеў побач Л.-Джорджа. Спікэрам (маршалкам) Палаты Гмін выбраны кансэрватар Уітолі. Прэм. Балдвін пры агульных воплясках прывітаўся з Макданальдам, а ў прамове да спікэра пажадаў, каб „урад знайшоў у ім прыхільніка, як апазыцыя—абаронцу.

---

Партыя працы горача рыхтуецца да прыняцьця ўраду. У вялікай прамове у Лёндыне Макдональд заявіў, што яго ўрад мае мэтай залагодзіць жыцьцёвыя беды працуючых масаў, але ня мае намеру рабіць рызыкоўных экспэрымэнтаў. Будучы прэм'ер абяцаў спыніць павялічэньне ўзбраеньняў—шляхам вялікай міжнароднай канфэрэнцыі, спыніць канкурэнцыю паміж Англіяй і Францыяй, падняўсьці як найвышэй аўтарытэт Лігі Народаў і прызнаць праўна Рад. Рэспублікі.

---

Ангельскія лібэралы падзяліліся ў адносінах да ўраду Макдональда: адны, як Л.-Джордж шчыра гатовы падтрымаць яго надоўга, каб даць яму магчымасьць правясьці абвешчаную ім праграму; другія, як Асквіт, маняцца толькі спачатку падтрымаць Макдональда, спадзяючыся яго хуткай кампрамітацыі і банкруцтва, пасьля якіх ім самім будзе вельмі лёгка атрымаць галасы кансэрватараў для стварэньня лібэральнага ўраду...

## ЯПОНІЯ.

З прычыны замаху на сына Мікада (імпэратара) японскі ўрад гр. Амамата падаў ў адстаўку. Прынц-рэгэнт (правіцель) назначыў прэм'ерам гр. Кіоура, 74 гадоў, які быў старшынёй асабістай Вышэйшай Рады пры Мікадзе. Пераменаў у палітыцы японскай не спадзяюцца. Замах зрабіў малады сын пасла Намба.

---

У часе вялікай маніфэстацыі перад палацам Мікада, з поваду ацаленьня пры замаху прынца-рэгэнта, нейкі карэец кінуў бомбу, якая аднак-жа не разарвалася. (Ведама, што такі „карэйчык“ заўсёды знойдзецца, каб даць магчымасьць паліцыі ўзмацаваць рэпрэсіі).

---

# Працэс беларусаў,

### абвінавачаных у прыгатаваньні паўстаньня проціў Польшчы ў Варшаўскім апэляцыйным Судзе.

(*Уражаньні*).

28—29 сьнежня г. г. у Варшаўскім Апэляцыйным Судзе разглядалася другі раз справа некаторых з тых 45-х беларусаў, каторых па абвінавачаньню ў падгатоўцы да аружнага паўстаньня ў траўні мінулага году судзіў Беластоцкі Акружны Суд.

Як вядома, той раз Беластоцкі Суд з 45 абвінавачаных апраўдаў 25 чалавек і засудзіў на розныя тэрміны адседкі ў вастрозе 20 чалавек, у тым ліку пасла С. Барана. Другога-ж пасла С. Якавюка — суд апраўдаў.

Адносна да некаторых з гэтых абвінавачаных, а ў тым ліку і пасла Сойму С. Барана, абарона падала скаргу ў Апэляцыйны Суд. Падаў пратэст таксама і пракурор проці апраўдацельнага прыгавора адносна да пасла С. Якавюка. З прычыны таго, што некаторыя з абвінавачаных ужо адбылі свае пакуты (кары), а адзін адмовіўся ад апэляцыі, дык перад апэляцыйным судом з быўшых 45-х падсудных Беластоцкага Суда, апынуліся ў Варшаве ўсяго 13 чалавек і ў тым ліку памянёныя два сябры Беларускага Пасольскага Клюбу паслы Баран і Якавюк.

Суд быў у новым складзе з старшынёй п. Алхімовічам на чале пры тым самым пракуроры п. Камінскім. Абаронцамі выступалі прымаўшыя ўчасьце ў абароне ў Беластоку вядомы віленскі адвакат Т. Врублеўскі, абаронца Барана і Якавюка, і варшаўскі адвакат А. Бабянскі, бараніўшы рэшту абвінавачаных.

Дзеля таго, што 28 сьнежня гэтая справа была пастаўлена ў дзенным парадку апошняй (сёмай па ліку), пачалася справа толькі каля другой гадзіны ў дзень. Цакладчыкам быў сам старшыня. Даклад цягнуўся вельмі доўга і разам з чытаньнем розных больш ці менш датычных да справы дакумэнтаў, галоўным чынам дзякуючы вымаганьням пракурора, заняў час аж да паўдня наступнага дня. У ліку прад'яўленых дакумэнтаў між іншым прачытаны быў прыгавор Літоўскага вайсковага суду па справе Пузырэўскага, у якім было прыведзена паказаньне Хмары-Разумоўскага аб тым, што Якавюк быццам, прыяжджаў у Літву, каб арганізаваць шаўлісаў (стральцоў). Трэба думаць, што гэты дакумэнт і згуляў на судзе рашучую ролю ў абвінавачаньні пасла Якавюка.

З выкліканых пяцёх сьведкаў на суд зьявілася толькі трох: адзін з боку пракуратуры (Лянкевіч), які быў і на папярэднім працэсе галоўным сьведкаю абвінавачаньня, і з боку абароны п. Дубяйкоўскі і пані Голуб; апрача таго па просьбе абароны быў дапушчаны судом п. Зямкевіч.

Сьведка Лянкевіч, зьявіўшыся на гэты раз у суд, паказаў тое самае, што ён гаварыў і на судзе ў Беластоку. Пасьля Лянкевіча быў дапрошаны п. Дубяйкоўскі. Ягонае паказаньне перш за ўсё мела тое значаньне, што зусім зруйнавала ўвесь сэнс пракурорскага абвінавачаньня ў нелегальным карыстаньні Бараном „беларускім“ пашпартам. П. Дубяйкоўскі засьведчыў, што ён уласнымі рукамі выдаў множства такіх самых пашпартоў, такога-ж зьместу, розным асобам, на што меў дазвол ад ураду. Апрача таго п. Дубяйкоўскі даў дэтальную справаздачу аб зьезьдзе ў Празе, пры чым рашуча падцьвердзіў, што гэты зьезд ня толькі быў зусім легальны, але і тое, што на ім нічога датычнага антыпольскіх арганізацыяў не гаварылася. На запытаньне пракурора, з якіх асобаў складаўся прэзыдыум зьезду, п. Дубяйкоўскі адказаў, што з Крычэўскага, Цьвікевіча і Захаркі (ўсе сучасныя міністры Ўраду Ластоўскага), што мусіць паслужыла повадам к павялічэньню падазронасьці, бо Баран быў сэкрэтаром на зьезьдзе.

Абаронца Врублеўскі прадставіў суду выразку з газэты „Kurjer Poranny“ з пісьмом Дубяйкоўскага, у якім ён пярэчыць Аляксюку ў адказ на ягоныя абвінавачаньні зьезду. Усё зьмешчанае ў пісьме п. Дубяйкоўскі падцьвердзіў. Казаў яшчэ п. Дубяйкоўскі аб Беларускім Нац. К-це ў Горадні, што гэты К-т быў зусім легальны, і ня гледзячы на гэта Горадзенскі староста зачыніў гэты К-т, як зачыніў і іншыя беларускія ўстановы. Калі-ж сам сьведка зьвярнуўся да старасты ў гэтай справе з запытаньнем, дык ён адказаў, што для Горадні ня трэба ніякіх беларускіх установаў, дзеля чаго п. Дубяйкоўскі ўсе Горадзенскія беларускія дабрачынныя ўстановы ўзяў пад апеку Варшаўскага Беларускага Нац. К-ту, у якім ён зьяўляецца старшынёй. На запытаньне пракурора ці зьяўляецца ён староньнікам незалежнасьці Беларусі, Дубяйкоўскі адказаў, што ўсякі беларус імкнецца да гэтага—розьніца толькі ў тактыцы і ў адносінах да ўраду.

Паказаньні сьведкі Зямкевіча былі забойчымі (зьніштажаючымі) для сьведкі абвінавачаньня—Лянкевіча. Ён засьведчыў перад судом і зноў падцьвердзіў на вочнай стаўцы, што Лянкевіча ён спатыкаў у Менску, дзе Лянкевіч быў памоцнікам камісара бальшавіцкай паліцыі і між іншым пры вобыску адабраў у яго залаты гадзіннік і бякешу. Пракурор некалькі разоў і рознымі спосабамі стараўся падарваць веру да паказаньняў Зямкевіча, ці проста заблутаць яго, але той моцна трымаўся свайго і казаў ясна, цьвёрда і пэўна.

Паказаньні пані Голуб датыкаліся галоўным чынам п. Пузырэўскага. З яе слоў выявілася, што гэты Пузырэўскі быў паліцыянтам яшчэ пры царскім урадзе, потым пасьля рэвалюцыі пры ўрадзе часовым, бальшавіцкім і нарэшце пры польскім. Ён быў добра знаёмы са сьведкай, і яна паказала суду яго патрэт у паліцэйскай форме царскіх часоў. Па гэтым патрэце тут-жа сьведка Зямкевіч пазнаў асобу надта падобную да таго „Пузырёва“, які быў начальнікам Лянкевіча, калі той служыў у бальшавіцкай паліцыі.

Пасьля дапроса сьведкаў, які цягнуўся больш дзьвёх гадзін, пачаўся агляд рэчовых доказаў.

Неяк сьмешна і сумна было бачыць гэтыя „рэчовыя доказы“, завернёныя ў два папяровыя пакункі: няўжо-ж гэта ўсё, чым хацелі пагубіць Польшчу, — дзяржаву першараднай эўрапэйскай велічыні?

Ня гледзячы на гэта, а можа й *дзеля гэтага* пракурор у сваёй досыць доўгай (1 г. 15 м.) прамове пастараўся перш за ўсё, як магчыма, раздуць і занадта павялічыць значэньне гэтае справы. Пяць гадоў толькі прайшло з часу ўваскрашэньня Польшчы, і ўжо ўзьнялася гэткая сур'ёзная небясьпека для яе суцэльнасьці ў відзе гэтак шырока нарыхтованага аружнага загавору. Усё польскае грамадзянства з надзвычайным зацікаўленьнем і напружанай увагай прыглядаецца да вынікаў гэтага працэсу (гэтае „ўсё польскае грамадзянства“, зацікаўленае справай, прадстаўляў з сябе *адзін* чалавек, пішучы гэтыя радкі, бо апрача яго, *нікога з польскага грамадзянства* сярод публікі ня было, ня было нават карэспандэнтаў). Далей пракурор намаляваў адносіны да гэтага „загавору“ і ўчасьце ў ім замежных дзяржаў, падтрыманьне яго з

---

Адгэтуль вывад, што *работнікі пануючай нацыі павінны дапамагчы паняволенай нацыі вызваліцца ад нацыянальнага ўціску, бо „інтэрнацыянальны рух пралетарыяту наагул магчымы толькі паміж незалежнымі нацыямі*“.

---

II Інтэрнацыянал, складаючыся пераважна, бадай выключна, з сацыялістычных партыяў дзяржаўных нацыяў, мала цікавіўся нацыянальным пытаньнем, і нацыянальны рух разглядаў, як рух контр-рэвалюцыйны. Разьвязаньне нацыянальнага пытаньня бачылі, хоць гэта і не падкрэсьлівалася асабліва, але натуральна мысьлілася і праводзілася ў штодзенным жыцьці,— у асыміляцыі слабейшых культурна нацыяў больш сільнымі. Падобна, як у эканамічным жыцьці больш адсталыя і слабыя прадпрыемствы ня могуць вытрымаць канкурэнцыі з больш моцнымі і збудаванымі па апошняму слову тэхнікі павінны быць праглынуты імі, так і ў нацыянальным жыцьці падтрыманьне слабых нацыянальнасьцяў лічылася актам рэакцыйным, які можа толькі затамаваць і аслабіць тэмп разьвіцьця нармальнага гістарычнага працэсу. І гэты пагляд на нацыянальнае пытаньне, знаходзіў, быццам, апраўданьне ў вядомых словах Энгэльса: „Мы прызнаём і сымпатызуем нацыянальным змаганьням толькі вялікіх і вядомых гісторыі нацыяў Эўропы“.

Ясна, што гэткі пагляд на рэчы зусім памылковы. Мы ня будзем тут гаварыць аб тым, які народ можна лічыць жыцьцяздольным і гістарычным. Магчыма, што ў пачатку разьвіцьця капіталізму, у тыя часы, калі Энгельс выказаў гэты свой пагляд, так і было ў запраўднасьці, што ён меў магчымасьць дасьледзіць, што жыцьцяздольнасьць выяўлялі толькі „вялікія і вядомыя гісторыі“ нацыі Эўропы. Але гэта ня значыць, што так справа павінна быць заўсёды. Падзеі апошніх дзесяткаў гадоў сьведчаць аб вялікім нацыянальным прабуджэньні і адраджэньні „малых і невядомых гісторыі“ народаў, якія выказваюць такую-ж, калі ня большую жыцьцяздольнасьць, чым вялікія. Прыклад Японіі, якую Энгэльс залічаў да нежыцьцяздольных, зьяўляецца красамоўным падцьверджаньнем гэтага...

У сучасны мамэнт, калі адраджэньне малых недзяржаўных народаў ідзе хуткім тэмпам, нацыянальнае пытаньне мае вялізарнае значэньне і гэтае пытаньне можа разьвязаць толькі пралетарыят у рамках сацыялістычнага гаспадарства, бо толькі сацыялістычны лад зьнішчыць усялякія формы вызыску і ўціску, у тым ліку і нацыянальнага. Сацыялізм-жа павінен падыходзіць да разьвязаньня гэтага пытаньня з пункту гледжаньня прызнаньня поўнага права кожнай нацыянальнасьці на самаазначэньне, і ня толькі ў тэорыі, але на практыцы і ў сваей штодзеннай палітыцы павінен распачаць акцыю за зьдзейсьненьне гэтага лёзунгу.

І зусім памылковы пагляд тых сацыялістаў, якія, як гэта рабіў і цяпер робіць II Інтэрнацыянал, ухіляюцца ад разьвязаньня нацыянальнага пытаньня, пакідаючы яго на апеку буржуазіі. Розьніца паміж буржуазіяй і пралетарыятам зьяўляецца ня ў тым, як зусім слушна заўважыў Зіноўеў на паседжаньні пашыранай Экзэкутывы Комінтэрну, што буржуазія мае нацыянальнае пытаньне, а пралетарыят яго ня мае, а ў тым, што буржуазія ня зможа здавальняюча разьвязаць гэтае пытаньне, тады калі пралетарыят мае магчымасьць яго разьвязаць у межах сацыялістычнага ладу.

Сьцьвердзіўшы, што толькі пралетарыят можа адначасна з клясовым вызваленьнем зьдзейсьніць і нацыянальнае вызваленьне, пяройдзем цяпер да ацэнкі ролі буржуазіі паняволенай нацыі ў яе барацьбе за нацыянальнае вызваленьне. І тут мы павінны прызнаць, што гэтая роля буржуазіі бязумоўна зьяўляецца ў пэўныя мамэнты рэвалюцыйнай, робячы яе ў працягу пэўнага часу саюзьнікам працоўных клясаў. Беспасрэднае рэвалюцыйнае значэньне буржуазнага вызваленчага нацыянальнага руху палягае ў тым, што аслабляе сілу імпэрыялізму пануючай нацыі і тым самым павялічвае шансы на ўдачу барацьбы пралетарыяту пануючай нацыі; такім чынам буржуазія адыграе тут рэвалюцыйную ролю пастольку, паскольку яна змагаецца проціў імпэрыялізму мэтраполіі.

Ня трэба толькі забываць, што як тая, так і другая буржуазія маюць па сутнасьці аднолькавы клясовы інтарас і гэтая барацьба павінна рана ці позна кончыцца кампрамісам, які захавае ў большай ці меншай меры пасрэдна ці беспасрэдна паняволеньне большасьці нацыі. (Прыклад Ірляндыя). І вось гэты мамэнт павінен выкарыстаць пралетарыят, паказваючы здраду буржуазіі, пераносячы барацьбу на чыста клясовы грунт як работнікаў, так і працоўнага сялянства, бо толькі працоўныя клясы запраўды абароняць інтарэсы краю і нацыі.

Гэтая ацэнка ролі буржуазіі знайшла свае выражэньне ў рэзалюцыі Нямецкай Камуністычнай Партыі: „Нямецкая буржуазія, пабітая ў вайне, прымушана вясьці барацьбу проціў пераможца—антантскага імпэрыялізму, прымушана рабіць высілкі, каб аслабіць кайданы вэрсальскага міру. Дбаючы, каб утрымаць сваё панаваньне над работніцкай клясай, праводзячы з гэтай мэтай контр-рэвалюцыйную палітыку, яна сваім становішчам проціў антантскага капіталу адыграе рэвалюцыйную ролю“.

Усё гэта трэба мець на ўвазе, калі падыходзіць з ацэнкай да нацыянальных рухаў. Тым больш павінны лічыцца з гэтым сацыялістычныя партыі пануючых нацыяў. Нігілізм у нацыянальным пытаньні, які прыкрываецца плашчом дрэнна-разумеемага інтэрнацыяналізму, мусіць спаткацца з вострым прысудам з боку ўсіх запраўдных сацыялістычных партыяў. Гэта ў першую чаргу павінна зразумець Польская Сацыялістычная Партыя (P. P. S.), якая на першы плян у сваей рэзалюцыі па нацыянальнаму пытаньню высоўвае змаганьне з нацыяналізмам нацыянальных меншасьцяў, а сама ўвесь час вядзе ўгадовую палітыку адносна да сваей роднай буржуазіі, ухваляючы на Кракаўскім Кангрэсе вольную руку сваім партыйным уладам у тварэньні і падтрыманьні коаліцыйных буржуазных урадаў. Вось гэтая ўгадовая палітыка P. P. S. ня можа знайсьці ніякага апраўданьня, бо роля буржуазіі пануючай нацыі заўсёды ёсьць і будзе сацыяльна-рэакцыйнай.

**Кумельган.**

